Гродна
№19 (501),
21 кастрычніка 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# "ПОЎНЫЯ ДУХА І ПАСЛАНЫЯ"

ПАД ТАКІМ ДЭВІЗАМ 21 КАСТРЫЧНІКА Ў КАСЦЁЛЕ РАСПАЧЫНАЕЦЦА МІСІЙНЫ ТЫДЗЕНЬ. ПРАЗ СВАЕ МАЛІТВЫ І МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ АХВЯРЫ КАТОЛІКІ ПАКЛІКАНЫ ПАДТРЫМАЦЬ МАЛАДЫЯ І БЕДНЫЯ КАСЦЁЛЫ НА МІСІЙНЫХ ТЭРЫТОРЫЯХ. ГЭТА ТАКСАМА ЧАС ВЫКАЗВАННЯ ЎДЗЯЧНАСЦІ ЗА ДАР ВЕРЫ І АСАБЛІВАЙ ПАМЯЦІ АБ МІСІЯНЕРАХ, ЯКІХ ВА ЎСІМ СВЕЦЕ СЁННЯ НАЛІЧВАЕЦЦА КАЛЯ 350-ЦІ ТЫСЯЧ. ЯНЫ ЦЯЖКА ПРАЦУЮЦЬ, БЕЗ АГАЛОСКІ, СТАНОВЯЧЫСЯ СВЕДКАМІ І ВЕСНІКАМІ ДОБРАЙ НАВІНЫ ЎСЮДЫ, КУДЫ ІХ ПАСЛАЎ БОГ.

● працяг на с. 4

“Місія Касцёла скіравана да ўсіх людзей добрай волі і абапіраецца на Евангелле”. Папа Францішак




**XXIX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мк 10, 35–45**

Падышлі да Езуса Якуб і Ян, сыны Зэбэдэя, і сказалі Яму: "Настаўнік, мы хочам, каб Ты зрабіў нам тое, пра што Цябе папросім". Ён жа адказаў ім: "Што хочаце, каб Я зрабіў вам?". Яны сказалі Яму: "Дай нам сесці аднаму праваруч, а другому леваруч Цябе ў славе Тваёй". Але Езус сказаў ім: "Не ведаеце, аб чым просіце. Ці можаце піць келіх, які Я п'ю, і прыняць хрост, якім Я ахрышчаны?". Яны адказалі Яму: "Можам". А Езус сказаў ім: "Келіх, які Я п'ю, піць будзеце, і хростам, якім Я хрышчуся, будзеце ахрышчаны, але даць сесці праваруч ці леваруч Мяне не ад Мяне залежыць, а каму падрыхтавана". І, пачуўшы, дзесяць вучняў пачалі абурацца на Якуба і Яна. А Езус паклікаў Дванаццаць і сказаў ім: "Вы ведаеце, што тыя, хто лічацца князямі народаў, пануюць над імі і вяльможы іх уладараць над імі. Але не так няхай будзе між вамі: хто хоча быць найбольшым сярод вас, няхай будзе вам слугою; і хто хоча сярод вас быць першым, няхай будзе нявольнікам усіх. Бо і Сын Чалавечы не на тое прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё сваё для адкуплення многіх".

### СЛУЖЭННЕ І ЦЯРПЕННЕ

Езус прыгадвае, што самыя пачэсныя месцы ў Нябесным Валадарстве здабываюцца цаной служэння і цярпення. Таму мы павінны быць гатовы не толькі служыць іншым, але і, калі будзе такая патрэба, цярпець за бліжняга, і нават ахвяраваць за яго жыццё.

Пакорнае прыняцце цяжкасцей, якія сустракаюць нас у жыцці, – нялёгкая рэч. Аб стойкасці і цярплівасці мы павінны нястомна маліцца Хрысту, які з'яўляецца Настаўнікам у нясенні крыжа. Усведамляючы тое, што Езус памёр за кожнага чалавека, вызваліўшы з-пад прыгнёту граху і даўшы збаўленне, абудзім у сабе жаданне перамяніць сэрца, імкнуцца за Панам і старанна служыць іншым.

**Як выглядае пастава служэння ў маім жыцці?**

**Якім чынам выражаю ўдзячнасць Хрысту за тое, што аддаў за мяне жыццё?**

**XXX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мк 10, 46–52**

Калі Езус выходзіў з Ерыхона са сваімі вучнямі і з вялікім натоўпам, Бартымэй, сын Тымэя, сляпы жабрак, сядзеў каля дарогі. Пачуўшы, што гэта Езус Назаранін, ён пачаў крычаць: "Езусе, Сыне Давіда, змілуйся нада мною". Многія загадвалі яму замоўкнуць, але ён яшчэ мацней крычаў: "Сыне Давіда, змілуйся нада мною". Езус спыніўся і сказаў: "Паклічце яго". І паклікалі сляпога, кажучы яму: "Смялей, уставай, Ён кліча цябе". Скінуўшы плашч, той падскочыў і падышоў да Езуса. І адказваючы яму, Езус сказаў: "Што хочаш, каб Я зрабіў табе?". Сляпы сказаў Яму: "Настаўнік, каб я зноў бачыў". Езус сказаў яму: "Ідзі, вера твая вылечыла цябе". І той адразу пачаў бачыць, і пайшоў за Езусам па дарозе.

### ПОЗІРК СУМЛЕННЯ

Людзі бачаць не толькі вачыма, але і сэрцам. Вочы душы мы называем сумленнем. Кожны чалавек ад нараджэння валодае гэтым бясцэнным дарам ад Бога і праз усё сваё жыццё павінен выхоўваць яго і развіваць у святле запаведзей і Евангелля.

Добра сфарміраванае сумленне дазваляе адрозніць дабро ад зла, заахвочвае рабіць высакароднае і пазбягаць беззаконняў, адорвае супакоем, калі робім правільны выбар, і грызе знутры, калі памыляемся. Яно з'яўляецца той асаблівай прасторай у глыбіні сэрца, з якой Стварыцель звяртаецца да нас, каб ісці за Яго святлом. Таму фізічная слепата небяспечная для цела, духоўная ж – пагражае душы.

Просім Бога, каб ацаліў ад духоўных пакут і дапамог захаваць зрок нашага сумлення. Няхай пастава Бартымэя навучыць нас стойкасці ў веры, бо толькі праз яе можам быць аздароўлены ад сваіх немачаў: як у душы, так і на целе.

**Як я ўспрымаю людзей, якіх свет спіхнуў на абочыну жыцця?**

**Як часта малюся Богу словамі Бартымэя: "Езусе, Сыне Давіда, змілуйся нада мною"?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Адказныя за распаўсюджанне Евангелля

*Абвяшчэнне Евангелля з'яўляецца першай задачай Касцёла, які – як прыгадвае ІІ Ватыканскі сабор у дэкрэце "Ad gentes" ("Да народаў") – па сваёй прыродзе місійны. Заклік Езуса "Ідзіце і навучайце ўсе народы" (Мц 28, 19) надалей застаецца актуальным і паўсюдным, скіраваным не толькі апосталам, але і нам, сучаснікам.*

Моцай св. хросту мы сталі вучнямі-місіянерамі, паклікан ымі несці Евангелле ўсяму свету, выходзіць да людзей з гэтым дарам, у яго вымярэнні духоўным, дабрачынным і ў дыяконіі, г. зн. служэнні. Як хрысціяне атрымліваем заданне, перш за ўсё, звычайна і проста сведчыць пра Бога, які аб'явіўся праз Езуса Хрыста ў Святым Духу; сведчыць, што Усемагутны палюбіў гэты свет у сваім Сыне, ва Уцелаўлёным Слове даў усім рэчам існаванне, а людзей паклікаў да вечнага жыцця.

Кожны свядомы, практыкуючы католік павінен быць місіянерам, бо вера з'яўляецца дарам, патрабавальным і, разам з тым, падзельным. Яна мацнее, калі перадаём Добрую Навіну тым, каго Божы Провід паставіў на нашай дарозе.

Св. Павел перасцерагаў: "Гора мне, калі я не абвяшчаю Евангелля!" (1 Кар 9, 16). З гэтых слоў вынікае, што кожны, хто на самой справе сустрэў Хрыста ў сваім жыцці, ужо не можа пакінуць Яго толькі для сябе, але павінен расказваць пра Яго блізкім і знаёмым: дома, у школе, на вучобе ці на працы. Кожны з нас пасланы, каб несці Добрую Навіну ўбогім, абвяшчаць вызваленне палонным, вяртаць зрок сляпым, выпускаць спакутаваных на свабоду (параўн.: Лк 4, 18).

Заступніцай місій, нягледзячы на тое, што ніколі на іх не была, з'яўляецца св. Тэрэза з Лізьё. Яе прыклад паказвае, што ў справу евангелізацыі можна ўключыцца не толькі праз асабістую прысутнасць на месцы, дзе праводзяцца місіі, але і праз малітоўную падтрымку, самаўтаймаванне, духоўныя і матэрыяльныя ахвяры. У сёлетнім пасланні на Сусветны дзень місій папа Францішак нагадвае: "Ніхто не з'яўляецца настолькі бедным, каб не мог бы даць таго, што мае, але найперш яшчэ і таго, кім ёсць".

**Дарагія Чытачы!**

"Мы не можам быць спакойнымі, калі ўявім, што праз 2 тысячы гадоў надалей застаюцца народы і краіны, якія не ведаюць Хрыста і яшчэ не чулі Яго паслання аб збаўленні", – казаў папа Бенедыкт XVI. Таму давайце акружым сваімі адданымі малітвамі ўсіх місіянераў, якія абвяшчаюць Евангелле ажно да краю зямлі, сярод абыякавасці, незразумення і праследаванняў. Выпрасім у Святога Духа, каб людзі адважна адкрывалі сэрца і розум, жадаючы прыняць запрашэнне Езуса сустрэцца з Ім і стаць Яго вучнямі. Няхай сёлетні Сусветны дзень місій напоўніць нас пачуццём адказнасці за распаўсюджанне Евангелля!

**"НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ"**

# БЛ. ЦЭЛІНА БАЖЭНЦКАЯ: ЗАСТУПНІЦА СЯСЦЁР ЗМЁРТВЫХПАЎСТАНАК



*У іканаграфіі бл. Цэліна Бажэнцкая прадстаўлена ў манаскім хабіце Кангрэгацыі Сясцёр Змёртвыхпаўстання Пана Нашага Езуса Хрыста.*

**Спалучыла ў сваёй біяграфіі сямейнае жыццё з манаскім, становячыся своеасаблівым феноменам у гісторыі Касцёла. Была жонкай, мамай, бабуляй і манахіняй. Заснавала Кангрэгацыю Сясцёр Змёртвыхпаўстання Пана Нашага Езуса Хрыста.**

**ПАКОРНАЯ БОЖАЙ ВОЛІ**

Цэліна Разалія Леанарда нарадзілася 29 кастрычніка 1833 года ў заможнай сям'і Хлюдзінскіх у Антовілі каля Оршы ў Беларусі. Дзякуючы клопату бацькоў атрымала добрую адукацыю. Ужо будучы маладой дзяўчынай хацела ўступіць у кляштар сясцёр візітак у Вільнюсе (Літва), але, паслухмяная волі бацькоў і парадзе спаведніка, у 1853 годзе выйшла замуж за Юзафа Бажэнцкага, уласніка маёнтка Абрэмшчына каля Гродна.

Гэта было шчаслівае сужэнства. Цэліна была адданай жонкай і маці. Нарадзіла 4-ых дзяцей, 2-ое з якіх – Марыя і Казімір – памерлі ў маленстве. Жывымі засталіся 2 дачкі – Цэліна і Ядзвіга. Перажывала моцны боль пасля страты маці і сястры. Усё гэта здарылася ў першыя гады замужжа.

Часам выпрабавання для Цэліны стала цяжкая хвароба мужа. У 1869 годзе Юзаф Бажэнцкі, закрануты паралічом, страціў сілу ў нагах. Уся сям'я вырушыла ў Вену (Аўстрыя) у пошуках эфектыўных метадаў лячэння. Верная жонка клапатліва апекавалася мужам на працягу 5-ці гадоў хваробы. Юзаф памёр у 1874 годзе.

Пасля смерці мужа Цэліна вярнулася да дзявочых мар пра манаства. У хуткім часе разам з дачкой Ядзвігай склала манаскія абяцанні. Пад уплывам ксяндзоў змёртвыхпаўстанцаў заснавала жаночую Кангрэгацыю Сясцёр Змёртвыхпаўстання Пана Нашага Езуса Хрыста, якая была зацверджана Касцёлам у студзені 1891 года. Інстытут заняўся вядзеннем школ, дзіцячых садкоў, інтэрнатаў. Сёстры з Кангрэгацыі распачалі служэнне як настаўніцы, выхавацельніцы, катэхеткі, закрыстыянкі, арганісткі, аніматары аазісаў, медсёстры.

1906 год стаў для маці Цэліны чарговым выпрабаваннем. Нечакана памерла яе дачка Ядзвіга, сузаснавальніца Кангрэгацыі і найбліжэйшая супрацоўніца, якая павінна была далей весці распачатую справу. Аднак жанчына пакорна падпарадкавалася Божай волі, працягваючы аддана выконваць абавязкі генеральнай настаяцельніцы.

Памерла ў Кракаве (Польшча) 26 кастрычніка 1913 года. Была пахавана ў Кэнтах, побач з дачкой. У 1937 годзе тленныя парэшткі Цэліны і Ядзвігі былі перанесены ў склеп пад капліцай манастыра сясцёр змёртвыхпаўстанак, а ў 2001 годзе – у саркафаг у касцёле св. Маргарыты і св. Кацярыны.

27 кастрычніка 2007 года ў рымскай базіліцы св. Яна на Латэране маці Цэліна Бажэнцкая была абвешчана блаславёнай.

**ЧАМУ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў БЛ. ЦЭЛІНЫ?**

Блаславёная з'яўляецца прыкладам святасці і вернасці ў выкананні Божай волі з усёй пакорай і гатоўнасцю, у стане глыбокай малітвы. Яе асоба – узор годнага перажывання цярпення ці страты кагосьці блізкага.

**ЦІКАВА!**

Пасля малітвы праз заступніцтва бл. Цэліны невытлумачальным чынам папраўся цяжка паранены ў аварыі Анджэй Мехежыньскі-Віктар, праўнук блаславёнай у 5-ым пакаленні. У 2002 годзе ватыканская Кангрэгацыя па справах кананізацыі афіцыйна прызнала гэты цуд.

**З ВУСНАЎ БЛАСЛАЎЛЁНАЙ**

"Няма рэчы, якой бы душа з любові да Пана Езуса не вытрымала".

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае бл. Цэліну Бажэнцкую 26 кастрычніка.

*Кс. Юрый Марціновіч*

## 22 кастрычніка – літургічны спамін св. Яна Паўла II

# Першая ў Беларусі парафія св. Яна Паўла II

**У 2012 годзе біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч – “кіруючыся духоўным дабром вернікаў і развіццём Хрыстовага Касцёла ў Гродзенскай дыяцэзіі” – выдаў дэкрэт аб заснаванні новай парафіі ў Смаргоні. Ёй быў нададзены тытул Яна Паўла II. Такім чынам Гродзенскі Касцёл вырашыў выказаць удзячнасць Богу за слыннага паляка, якога шануюць і любяць на гэтых землях. Годам раней Касцёл аб’явіў Папу славяніна блаславёным. Парафія Яна Паўла II стала першай у Беларусі, заснаванай пад такім тытулам.**

**У 2013 годзе літаральна за 8 месяцаў была пабудавана капліца. У 2014 годзе – асвечаны фундамент пад будаўніцтва касцёла. Адметна, што ўрачыстая падзея адбылася ў першы літургічны ўспамін ужо афіцыйна абвешчанага Касцёлам св. Яна Паўла II.**



**Парафія касцёла Яна Паўла II Р/р BY61AKBB30150879000114200000
ЦБУ №423 Філіял №413 ОАО «АСБ Беларусбанк» г. Ліда
г. Смаргонь, вул. Савецкая, 3, БІК AKBBY21413 УНН 500838347
плацёжнае прызначэнне: ахвяраванне**

### СПАГАДЛІВЫЯ І ІНІЦЫЯТЫЎНЫЯ ПАРАФІЯНЕ

Сёння капліца штодня перапоўнена вернікамі. Па нядзелях у святыні адпраўляецца 4 св. Імшы, у буднія дні – 2.

З чэрвеня бягучага года ў парафіі назначаны новы пробашч – кс. Яўген Учкуроніс. Назіраючы за набожнасцю мясцовых вернікаў, святар адзначае ***“глыбокую традыцыю, якую людзі здолелі захаваць, якую далей перадаюць наступным пакаленням”.*** Прыемныя ўражанні на душпастыра таксама аказваюць спагадлівасць і ініцыятыўнасць парафіян. ***“Шмат хто прыходзіць у закрыстыю з пытаннем: «Што я магу зрабіць для сваёй парафіі?»*** – распавядае кс. Яўген. – ***Людзі з запалам уносяць нейкія ідэі, прапановы. Хтосьці мае вольны час, бо выйшаў на пенсію, хтосьці – пэўныя ўменні: іграе на музычным інструменце, працуе будаўніком...”.*** Святар жадае, каб парафіяне ўсе разам разумелі адказнасць за Божае заданне, якое выпала на іх долю, каб цягнуліся адзін за адным і толькі ўзрасталі ў жаданні зрабіць свой унёсак у будаванне парафіі.

Канешне, не абыходзіцца і без цяжкасцей. ***“Але мы часта аглядаемся на апекуна сваёй парафіі св. Яна Паўла II, які таксама сустракаўся з пэўнымі складанасцямі,*** – зазначае кс. Яўген. – ***Перыяд яго пантыфікату прыпаў на часы атэізму, калі грамадства перажывала духоўны заняпад. Аднак менавіта дзякуючы Яну Паўлу II духоўнае жыццё ва ўсім свеце ўзнялося на новы ўзровень. Трэба разумець, што цяжкасці – любыя – нас узмацняюць. Годна праходзячы праз іх, мы вучымся па-сапраўднаму даверыць Богу і становімся больш дасканалымі”.***

### ШЛЯХАМ СЛЫННАГА СВЯТОГА

Кс. Яўген упэўнены, што голас народа шмат у чым вызначае, як павінна развівацца парафія. Пасля бяседы з вернікамі адносна таго, чаго яны патрабуюць для духоўнага росту, высветлілася, што неабходна арганізаваць парафіяльныя суполкі па інтарэсах. Такім чынам, ужо сёння існуюць групы па разважанні над Божым словам, катэхетычная група для дарослых па вывучэнні Катэхізіса. ***“Вялікім духоўным багаццем для парафіі з’яўляюцца Ружанцовыя колы, Апостальства вечнай малітвы за святароў «Маргарытка»,*** – падкрэслівае святар. – ***У планах узнавіць разуменне веры праз неакатэхуменат, развіць эўхарыстычны рух. Ва ўмовах крызісу сям’і трэба таксама належную ўвагу прысвяціць душпастырству сем’яў, катэхізацыі дзяцей і моладзі. Св. Ян Павел II вельмі клапаціўся аб выхаванні маладога пакалення, у свой час устанавіў Сусветныя дні моладзі. Хацелася б данесці маладым людзям наказ Папы, каб былі адважнымі сведкамі сваёй веры не толькі ў касцёле, але і за яго межамі, у сваім паўсядзённым асяроддзі”.***

У казаннях да вернікаў кс. Яўген нястомна імкнецца адкрываць сэнс пасланняў св. Яна Паўла II, задаючы тым самым людзям неабходны, правільны жыццёвы арыенцір. Святар спадзяецца, што святы падтрымлівае іх у гэтым зямным пілігрымаванні.



*Кс. Яўген упэўнены, што прыклад св. Яна Паўла II праводзіць парафіян да святасці*

### ВЕРЫЦЬ І БУДАВАЦЬ – НЕ НААДВАРОТ

Ад моманту, калі быў закладзены фундамент касцёла, будаўніцтва прыпынілася. Як зазначае пробашч парафіі, яно павінна ўзнавіцца ў красавіку 2019 года. І кожны чалавек добрай волі можа гэтаму паспрыяць (рэквізіты для ахвяраванняў указаны на пачатку артыкула). Зараз вырашаюцца дакументальныя справы. Ужо маецца макет будучага касцёла.

Паколькі будаўніцтва святынь у наш час – не такая ўжо і частая з’ява, толькі некаторыя святары сутыкаюцца з гэтай няпростай справай, прычым сутыкаюцца ўпершыню. Але, як цытуе са Святога Пісання кс. Яўген, “усё магу ў тым, хто ўзмацняе мяне” (Флп 4, 13). Да таго, нешматлікія “святары-будаўнікі” аказваюць адзін аднаму вялікую падтрымку, дзеляцца досведам: ад паслядоўнасці афармлення дакументаў да выбару шчыльнасці цэглы.

***“Касцёл – гэта знак нашай веры***, – гаворыць кс. Яўген. – ***Нельга сказаць, што спачатку мы пабудуем святыню, а потым будзем будаваць веру. Так, як касцёл складаецца з цаглінак, таксама і вера складаецца з цаглінак, жывых – людскіх сэрцаў. Таму, на мой погляд, першачаргова трэба клапаціцца аб душпастырстве вернікаў, ад якога залежыць моц веры, і толькі паралельна з гэтым прыкладваць намаганні, каб будаваць Божы дом. Касцёл – гэта толькі вынік, які знешне праяўляе нашу веру”.***

*Ангеліна Пакачайла*



*Катэхізацыя дзяцей і моладзі з’яўляецца адным з прыярытэтных накірункаў у парафіяльным душпастырстве*

## Лісты чытачоў

***Паважаная Рэдакцыя газеты “Слова Жыцця”! Пішу ад імя сваёй сястры Валянціны Вітхоўскай (у дзявоцтве Здановіч), якая пражывае ў г. Ліда. Мы паходзім з парафіі Ішчолна. Тут нарадзіліся, жылі. Цяпер там засталася толькі наша мама. Але гэты куточак малой радзімы мы і сёння лічым сваім, родным.***

*З-за хваробы сястра доўгі час (каля 3-ох гадоў) не наведвала святыню ў Ішчолне. Мы расказвалі ёй аб зменах, якія адбыліся за гэты час, але адна справа пачуць, а зусім іншая – убачыць на ўласныя вочы. Яна помніла касцёл са старой падлогай, якая ўжо ў многіх месцах правальвалася, што нават боязна было перамяшчацца па святыні, з даўно не фарбаванымі сценамі. І якое ж было здзіўленне сястры, калі яна, як толькі пад’ехалі да касцёла, прыкмеціла на месцы некалі даволі глыбокай рытвіны, якую трэба было абыходзіць і аб’язджаць, зручную пляцоўку для стаянкі аўтамабіляў. Яшчэ большае здзіўленне было ў сястры, калі пераступіла касцёльную браму. Да галоўнага ўваходу ў святыню вёў ходнік з пліткі, падобнай на стары брук, а з правага боку быў усталяваны новы місійны крыж насупраць старога. Але самае галоўнае здзіўленне чакала наперадзе: уваходзіш у святыню – а там пафарбаваны сцены касцёла, новая падлога, больш зручныя лаўкі... Аб усім гэтым паклапаціўся малады святар, былы пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы кс. Андрэй Кеўлюк.*

***Просім перадаць ад імя нашай сям’і і ад імя парафіян словы падзякі кс. Андрэю. З вялікай удзячнасцю ўспамінаем руплівага святара!***

*Галіна Ханько, г. Гродна*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*У кожным хворым дзіцяці, у кожным адчайным мігранце, у кожным крохкім жыцці, жыцці, якому паграажаюць, Хрыстос шукае нас, шукае нашага сэрца, каб раскрыць радасць любові. Той, хто здаецца праблемай, на самой справе з’яўляецца Божым дарам, які можа выцягнуць з эгацэнтрызму і дазволіць узрастаць у любові. Уразлівае жыццё ўказвае нам выйсце, шлях, каб пазбавіцца ад засяроджанага на сабе існавання.*

*Мы павінны сказаць усім людзям у свеце: не пагарджайце жыццём! Не пагарджайце жыццём іншых і ўласным. Вялікай колькасці моладзі трэба сказаць: не пагарджайце сваім жыццём! Перастаньце выракацца Божай справы! Ты – справа Божая! Не недаацэньвай сябе, не пагарджай сабой праз розныя залежнасці, якія ламаюць дух і вядуць да смерці. [...] Нельга пагарджаць тым, што Бог палюбіў! А Ён так палюбіў свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, “каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае” (Ян 3, 16).*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 10.10.2018*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Са смуткам трэба прызнаць, што ружанцовая малітва, якую некалі паўсюдна адгаворвалі, у сучасным свеце не знаходзіць зразумення, асабліва ў маладых людзей. Можна пачуць папрокі, што адгаворванне Ружанца забірае вельмі шмат часу, што гэта занадта простая, манатонная, старая малітва.*

*Але тыя, хто рэгулярна моліцца на ружанцы, могуць засведчыць, як многа яны атрымалі Божых ласкаў і дароў. Пацвердзяць таксама, што гэтая малітва навучыла іх яшчэ больш любіць Усемагутнага, яшчэ мацней духоўна злучацца з Езусам і Марыяй, яшчэ глыбей у святле веры глядзець на ўласнае жыццё і жыццё іншых людзей...*

*Дык возьмем у руку ружанец – магутную зброю, якую Марыя сама дала нам як сваім прыёмным дзецям. Няхай як мага часцей, нават штодзённа, з нашых вуснаў і сэрцаў, як затопленая пачуццямі рака, выцякае ружанцовая малітва; няхай нясе з сабой усе нашы радасці і боль, клопаты і неспакой, надзеі і жаданні, каб усе іх утапіць у Богу, у бязмежных глыбінях Яго Любові і Міласэрнасці. А калі дні нашай зямной пілігрымкі падыдуць да канца і нам цудоўным звычаем сплятуць рукі ружанцам на падарожжа ў краіну вечнага шчасця, няхай на парозе дома Нябеснага Айца нас сустрэне Марыя, наша Маці і Заступніца, Каралева святога Ружанца.*

*Фрагмент гамііі, прамоўленай на ўрачыстасці НПМ Ружанцовай у касцёле ў Воўпе, 07.10.2018*




◆ Святы Айцец Францішак перадаў 100 тыс. даляраў у дапамогу пацярпелым ад землятрусаў і цунамі ў Інданезіі. Гэтая сума стала тэрміновым выразам пачуцця духоўнай блізкасці і бацькоўскай падтрымкі з боку Папы для людзей і тэрыторый, якія пацярпелі ў выніку стыхійнага бедства на востраве Сулавесі. У дапамогу ўключыўся таксама мясцовы Касцёл праз дабрачынныя арганізацыі з усяго свету.

◆ Паўночнакарэйскі правадыр Кім Чэн Ын запрасіў Святога Айца ў Пхеньян. Пра гэта паведамілі ў бюро прэзідэнта Паўднёвай Карэі Мун Чжэ Іна. Падчас візіту ў Ватыкан ён павінен перадаць папе Францішку запрашэнне Кім Чэн Ына. Дарэчы, святыні і нешматлікія асобныя групы вызнаўцаў розных рэлігій у Паўночнай Карэі, хутчэй за ўсё, прызначаны ствараць бачнасць рэлігійнай памяркоўнасці. Паводле афіцыйнай, урадавай статыстыкі, у краіне пражывае 10 тыс. пратэстантаў і амаль 4 тыс. католікаў (якія, аднак, не маюць ніякага святара; апеку над імі фармальна ажыццяўляе арцыбіскуп Сеула).

◆ Католікі ва Украіне масава ўдзельнічаюць у флэшмобе #RosaryChallenge. У адказ на заклік папы Францішка вернікі штодня моляцца на ружанцы і перадаюць эстафету далей. Да флэшмобу далучыліся таксама іерархі Каталіцкага Касцёла ва Украіне: біскуп Кіева-Жытомірскі Віталій Крывіцкі, біскуп Харкаўска-Запарожскі Станіслаў Шыракарадзюк, дапаможны біскуп Львоўскай архідыяцэзіі Эдвард Кава, дапаможны біскуп Харкаўска-Запарожскай дыяцэзіі Ян Собіла.

◆ З Непакалянава ў Лабараторыю малекулярнай тэхнікі ў Вроцлаве (Польшча) для ўстанаўлення генетычнага профіля св. Максімільяна Марыі Кольбэ прывезены лагерная роба і крыж, падораныя былымі вязнямі Аўшвіца, а таксама валасы святога і яго зубная шчотка. За даследаванне ўзяўся праф. Тадэвуш Добуш. Як падкрэсліў навуковец, да нядаўняга часу падобныя вопыты ўвогуле не былі магчымыя: "У нас не было ні тэхнік, ні ўмоў, каб правесці даследаванне такіх каштоўных прадметаў, не знішчаючы іх фрагментаў. Цяпер можам гэта зрабіць і прыкладзём усе намаганні, каб дакладна ўстанавіць, ці належала роба а. Максімільяну, ці ўжываў ён гэты крыж".

◆ За 106 гадоў на тэлеэкране ў ролі Езуса свет бачыў 38 акцёраў. Некаторыя з іх на момант запісу фільма мелі дакладна 33 гады. Для іншых гэта былі пераломныя ў кар'еры ролі. Інтэрнэт-партал Алетэя прадставіў топ 10 акцёраў, якія найлепш сыгралі ролю Хрыста. Сярод іх – Бэла Ферэнц Дзежо Блашка, больш вядомы як Бэла Лугошы, ("Страсці Хрыстовыя", 1909 г.), Джэфры Хантэр ("Цар цароў", 1961 г.), Макс фон Сюдаў ("Самая вялікая з расказаных гісторый", 1965 г.).

credo.pro; niedziela.pl; aleteia.org

# "ПОЎНЫЯ ДУХА І ПАСЛАНЫЯ"

● працяг са с. 1

## ПЕРАДАВАЦЬ ВЕРУ ДА КАНЦОЎ ЗЯМЛІ

У "місійны час" нас узводзіць Пасланне папы Францішка на Сусветны дзень місій, якое ў гэтым годзе асаблівым чынам скіравана моладзі. У ім Святы Айцец звяртае ўвагу на тое, што кастрычнік з'яўляецца чарговай нагодай, каб стаць вучнямі-місіянерамі, якія ўсё больш любяць Езуса і Яго місіі, ажно да самых далёкіх канцоў зямлі. "Вы, маладыя людзі, праз хрост сталі жывымі членамі Касцёла, і мы разам заклiканы несці Евангелле ўсім. Вы ўваходзіце ў жыццё. Узрастанне ў ласцы веры, перадаваемай сутнасць місіі Касцёла – адбываецца праз "заражэнне" любоўю, дзякуючы чаму радасць і энтузіязм выражаюць нанова знойдзены сэнс і паўнату жыцця: "Распаўсюджанне веры шляхам прыцягнення патрабуе адкрытых, расшыраных любоўю сэрцаў. А такая адкрытасць нараджае сустрэчу, сведчанне, абвяшчэнне; нараджае ўзаемнае дзяленне ў любові з тымі, хто далёкі ад веры, абыякавы да яе, а часам бывае непрыхільны ці супрацівіцца ёй. Людскія асяроддзі, культурныя і рэлігійныя, якія ўсё яшчэ не ведаюць Евангелля Езуса і сакраментальнай прысутнасці ўваскрослага Хрыста жыццём і словам – напрамую вынікае з веры, з усведамлення таго, што Езус з'яўляецца найкаштоўнейшым скарбам, з радасці, што ім валодаеш, а таксама з жадання адорваць іншых тым, што сам атрымаў бясплатна і што так жа бясплатна можа атрымаць кожны. Асобамі, якія вырушаюць на місіі, звычайна кіруе ўнутраны голас, які гаворыць: "Я атрымаў многае, і цяпер хацеў бы гэтым падзяліцца".

Кожны веруючы павінен адчуваць сябе адказным за Касцёл, які ствараюць як кансэкраваныя, так і свецкія асобы, і разумець, што праз сакраманты Касцёла, уключае нас у паток пакаленняў сведкаў, дзе мудрасць тых, хто мае досвед, становіцца сведчаннем і матывацыяй для тых, хто адкрываецца на будучыню. А навізна маладых становіцца, у сваю чаргу, падтрымкай і надзеяй для асоб, якія набліжаюцца да мэты свайго падарожжа. Дзякуючы суіснаванню розных узроставых груп Касцёл у сваёй місіі будуе масты паміж пакаленнямі, праз якія вера ў Бога і любоў да бліжняга становяцца фактарамі глыбокай еднасці", – напісаў Папа.

Святы Айцец падкрэсліў, што перадача веры – Касцёла, з'яўляюцца самымі далёкімі «канцамі зямлі», куды з часоў Пасхі Езуса пасланы Яго вучні і місіянеры, з упэўненасцю, што побач з імі заўсёды знаходзіцца Пан (параўн.: Мц 22, 20; Дз 1, 8). На гэтым і засноўваецца тое, што мы называем «missio ad gentes» («місіі да народаў»)".




Місійная дзейнасць – гэта заўсёды сустрэча з новымі людзьмі, з іх радасцямі і праблемамі

## МІСІІ – СПРАВА НЕ ТОЛЬКІ ДУХАВЕНСТВА

Місіянер – гэта, найперш, чалавек добрай волі, які ахвяруе тое, што мае каштоўнага, г. зн. самога сябе, дар свайго жыцця бліжняму і Касцёлу. Прагненне стаць місіянерам – хто абвяшчае місійная паслуга пачынаецца з давання сведчання ў сям'і і на месцы працы, з удзелу ў жыцці парафіяльных супольнасцей. Быць місіянерам – гэта таксама значыць рэалізаваць запаведзі любові да бліжняга. Што большага мы здольны ахвяраваць іншаму, чым усведамленне Божай любові, чым дарога да адкрыцця каштоўнасці і годнасці ўласнай чалавечнасці, што ўспрымаецца ў святле Хрыста, які стаў Чалавекам, каб аддаць жыццё за ўсіх людзей?

*Кінга Красіцкая*

**У Ватыкане склалі спіс прозвішчаў загінуўшых за веру місіянераў і місіянерак. Згодна з гэтым рапартам, апублікаваным інфармацыйным агенцтвам "Fides", у 2000–2017 гадах забіта 447 асоб, якія знаходзіліся на місійнай службе ў розных кутках свету. Сярод іх аказаліся 5 біскупаў, 313 ксяндзоў, 3 дыяканы, 10 манахаў, 51 манахіня, 16 семінарыстаў, 3 члены інстытутаў кансэкраванага жыцця, 42 свецкія асобы, 4 валанцёры. Аднак фактычная колькасць ахвяр вышэйшая, таму што апублікаваны выключна пацверджаныя выпадкі.**



## С. Вераніка Огар FMA

*Кангрэгацыя Дачок Марыі Успамогі Хрысціян*



*Кангрэгацыя Дачок Марыі Успамогі Хрысціян (сёстры салезіянкі) сама па сабе місійная. Мы нясём Хрыста моладзі ў тых месцах, куды пасылае нас Касцёл. Не прывязаны да служэння на адной пляцоўцы – ідзём туды, дзе ёсць патрабуючыя. Сёстры выконваюць сваю місію сярод дзяцей і моладзі на ўсіх кантынентах свету. Яны праводзяць катэхізацыю, апекуюцца школамі, выхаваўчымі асяродкамі, інтэрнатамі, кіруюць араторыямі, моладзевымі цэнтрамі, арганізуюць і займаюцца аніматарствам апостальскіх рухаў сярод моладзі з мэтаю дзейснага і адказнага ўключэння яе ў жыццё Касцёла.*

*Нашы сёстры таксама вядуць місійную дзейнасць у розных краінах. Ужо больш за 20 гадоў яны нясуць сваё служэнне ў Грузіі. І калі настаяцельніца паведаміла мне аб тым, што паеду ў гэтую краіну, з паслухмянасцю прыняла даручанае заданне. Перад паездкай ў Тбілісі не мела нейкіх канкрэтных планаў. Больш думала аб тым, што пакідаю, чым аб тым, куды еду. Можа, нават да канца не разумела, як, навошта, куды накіроўваюся. Адзінае пытанне, якое мяне вельмі хвалявала: што буду рабіць у краіне, мовы якой зусім не ведаю?*

*У дадзены момант маё служэнне заключаецца ў тым, каб... быць! Кансэкраваная асоба ў першую чаргу паклікана жыць з Хрыстом і толькі пасля – несці Яго іншым людзям. Зараз актыўна стараюся пераадолець моўны бар'ер – вывучаю грузінскую мову.*

*У Тбілісі сёстры салезіянкі маюць невялікі выхаваўчы цэнтр для дзяцей дашкольнага ўзросту. Гэтая пляцоўка – вялікая дапамога для грузінскіх сем'яў, многія з якіх пакутуюць ад беднасці. Пакуль сёстры апекуюцца дзецьмі і праводзяць з імі заняткі, маці выходзяць на працу, каб крыху падзарабіць грошай на ўтрыманне сям'і. Я таксама шмат часу праводжу з дзецьмі. Падчас заняткаў папаўняю свой слоўнікавы запас, адным словам, разам з імі раблю першыя крокі.*

*Грузія з кожным днём усё больш і больш здзіўляе мяне сваёй кантраснай прыродай, культурай і традыцыямі. Нездарма кажуць, што гэта адна з самых прыгожых краін у свеце. Але найбольш тут мяне ўражваюць людзі. Грузіны – вельмі гасцінны, простыя, адкрыты, шчодры народ. Памятаю, у адзін з першых дзён пасля прыезду я ішла па вуліцы. Да мяне падышла незнаёмая жанчына старэйшага ўзросту, прывіталася і запрасіла да сябе на каву. У папулярнай грузінскай прыказцы гаворыцца, што госць – гэта падарунак ад Бога. І я ў гэтым пераканалася, калі ўвайшла ў дом незнаёмкі, дзе за багата накрытым сталом мяне прынялі як важнага госця. Таксама за той кароткі час, што знаходжуся ў Тбілісі, я паспела заўважыць, што грузіны ўмеюць адпачываць. І калі, гледзячы на іх, спачатку ўзнікае пытанне, навошта выкідваць столькі грошай на феерверкі ды іншыя забавы, то пасля, падумаўшы, разумееш: магчыма, гэта якраз тое, чаго часта не хапае нам, прагматычным беларусам. Мы шмат працуем, але баімся патраціць лішнюю капейку для забеспячэння ўласнага камфорту.*

*Што мяне яшчэ ўразіла ў мясцовых людзях – гэта іх няспешнасць. Калі заходзіш у метро, то дзіву даешся: ніхто нікуды не бяжыць, няма ніякай мітусні. Акрамя таго, грузіны не шкадуюць часу адзін для аднаго: яны шмат размаўляюць, бавяць вольны час з сям'ёй і сябрамі.*

*Што да мясцовай каталіцкай супольнасці, то яна тут вельмі маленькая. Грузія лічыцца пераважна праваслаўнай краінай. Але ў гэтым ёсць свой шарм. Паколькі католікаў тут няшмат, амаль усе адзін аднаго ведаюць, разам раздзяляюць радасці і клопаты.*

*Набажэнствы тут праходзяць на грузінскай, лацінскай, польскай, рускай, англійскай мовах. Такім чынам мясцовы Касцёл дапасоўваецца да розных груп каталіцкіх вернікаў з-за мяжы, якія часова жывуць у Грузіі.*

*Вельмі ўдзячна Богу, што накіраваў мяне ў гэтую цікавую краіну. Спадзяюся, мая праца прынясе добры плён, і прашу аб гэтым Усявышняга.*

# СЭРЦА ДЛЯ УРАЛА І СІБІРЫ

**Два месяцы таму кс. Ян Высоцкі SAC і кс. Сяргей Більдзіс SAC, якія належаць да Таварыства Каталіцкага Апостальства, распачалі сваё душпастырскае служэнне ў Чалябінску. Святары з воранаўскай парафіі сталі першымі ксяндзамі палатынамі, якія прыехалі на пастаянную працу ў азіяцкую частку Расіі. Місіянеры з невычэрпнай энергіяй, талентам валодання словам і шчырым жаданнем абвяшчаць Нябеснае Валадарства там, куды іх скіраваў Бог, укараняюць у жыццё мясцовых людзей хрысціянскія каштоўнасці, дапамагаюць пазнаваць Хрыста і любіць Яго ўсёй душой.**



*Ксяндзы палатыны з Гродзеншчыны спадзяюцца, што Евангелле, якое яны будуць прапаведаваць на расійскай зямлі, прынясе шчодры плён*

## У ЧАКАННІ МІСІЙ

Да паездкі ў Расію святары служылі ў Беларусі: кс. Ян – у Воранаве ў Гродзенскай дыяцэзіі, а кс. Сяргей – у Талочыне ў Віцебскай дыяцэзіі. Абодва паходзяць з воранаўскай парафіі свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша. Сябравалі з маленства, а пасля разам вучыліся ў семінарыі. Там шмат разважалі над місійным аспектам святарскага жыцця.

Паступова ў іх выспела жаданне стаць евангелізатарамі ў Расіі. На пытанне, чаму прывабіла менавіта гэтая краіна, кс. Ян адказвае: ***“Падчас аб’яўленняў у Фаціме Маці Божая прасіла прысвяціць Расію свайму Беззаганнаму Сэрцу і прадказала, што, калі Папа здзейсніць гэты акт, краіна навернецца, а свет будзе цешыцца супакоем. Людзям тут давялося перажыць страшныя атэістычныя часы ганенняў і праследавання за веру ў Бога, але рэлігійнае жыццё ў Расіі паступова абудзілася. Нам вельмі хацелася сведчыць аб Хрысце на гэтых землях, спрычыняцца да распаўсюджвання каталіцкай веры. Не раз агучвалі сваё жаданне падчас сустрэч з айцом правінцыялам. Але нас не маглі туды накіраваць з-за адсутнасці місійнага дома ксяндзоў палатынаў у гэтай краіне”.***

Праз некаторы час стала вядома, што ардынарый Навасібірскай дыяцэзіі скіраваў да ксяндзоў палатынаў запрашэнне на пастаянную працу. Парафію ў Чалябінску, куды меліся прыехаць місіянеры, спачатку павінен быў наведаць айцец правінцыял. ***“Пакуль кс. Адрыян Гальбас знаходзіўся ў Расіі, знаёміўся з умовамі пастырскай працы і мясцовай супольнасцю вернікаў, мы шмат маліліся,*** – распавядаюць місіянеры. – ***Памятаем, што акурат у гэты час паехалі ў Наваградак, дзе праз заступніцтва сясцёр мучаніц прасілі Бога, каб накіраваў нас на служэнне ў суседнюю краіну. Калі вярталіся дадому, патэлефанаваў айцец правінцыял і паведаміў, што паедзем у Расію. Для нас гэта быў сапраўдны знак з неба”.***

У жніўні ў касцёле ў Воранаве адбылася св. Імша, падчас якой святары атрымалі рэліквіі свайго заснавальніка св. Вінцэнта Палоцці і бл. Альжбеты Санны, а таксама місіянерскія крыжы і блаславенне. У хуткім часе кс. Ян і кс. Сяргей накіраваліся на сваё новае месца служэння.

“***Перад выездам у Расію мы паехалі ў Польшчу, каб падпісаць усе неабходныя дакументы,*** – узгадваюць святары. – ***Там звязаліся з сакратаром санктуарыя Маці Божай Фацімскай, распавялі пра свае місіі. У верасні кардынал Роберт Сарах, прэфект Кангрэгацыі Божага культу і дысцыпліны, знаходзіўся з візітам у польскім санктуарыі і асвяціў фігуру Маці Божай Фацімскай на палатынскія місіі ў Расіі. Спадзяёмся, што ў хуткім часе яна прыбудзе да нас у Чалябінск”.***

## БЫЦЬ АДДАНЫМІ ЛЮДЗЯМ І БОГУ

Кс. Ян і кс. Сяргей распавядаюць, што сям’я і блізкія моцна перажывалі, калі выпраўлялі іх за тысячы кіламетраў, але абяцалі, што будуць духоўна падтрымліваць праз малітву. Ды і самі місіянеры крыху хваляваліся. Гэта ня дзіўна, калі ўлічыць, што іх чакалі зусім новыя рэаліі – горад, які налічвае больш за 1 млн жыхароў, людзі з іншым менталітэтам...

Але хутка ўсе страхі змяніліся радасцю: мясцовыя жыхары з цеплынёй і гасціннасцю сустрэлі святароў, якіх так доўга чакалі. ***“Мы нясём служэнне ў парафіі Беззаганнага***



***Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі,*** – распавядае кс. Ян. – ***На нядзельнай св. Імшы ў святыні збіраецца каля сотні вернікаў, у будні дні прыходзіць у разы менш: 10-15 чалавек, таму адпраўляем св. Імшу ў капліцы. Там ёсць алтар Езуса Міласэрнага, стаіць крыж, каля якога можна запаліць свечку. Сюды са сваімі просьбамі прыходзяць не толькі католікі, але і вернікі іншых канфесій, моляцца за жывых і памерлых. Не так даўно сустрэў у нашай капліцы казаха, які доўга стаяў перад абразом. Калі ён убачыў мяне, то распавёў, што часта сюды прыходзіць. А пасля ўзняў уверх далоні і сказаў, што старэйшыя людзі заўсёды імкнуцца быць бліжэй да Пана Бога”.***

Ксяндзы палатыны падкрэсліваюць, што ў Чалябінску шмат патомкаў католікаў, якія некалі былі сасланы ў Сібір. У горадзе калісьці была святыня, але ў савецкі час яе зруйнавалі, таму людзі захоўвалі веру выключна ў сваіх сем’ях.

Праз доўгія гады ў Чалябінск прыехалі святары з Германіі і пабудавалі касцёл. ***“Нам ужо не трэба мясіць цэмент ды класці сцены,*** – гавораць ксяндзы. – ***Але маем не менш адказнае заданне: клапаціцца аб духоўнасці мясцовых людзей, запаўняць пустэчу ў іх сэрцах. Яшчэ патрэбна шмат малітваў і намаганняў, каб пабудаваць тут сапраўды моцную каталіцкую супольнасць. Бачым, што нават тыя вернікі, якія прыходзяць у храм, патрабуць асаблівай апекі, любові і цярплівасці. Трэба***



*Падчас развітальнай св. Імшы вернікі з Воранава пажадалі кс. Яну і кс. Сяргею цёплага прыёму ў новай парафіі*



*Місія святароў – абвяшчаць Божае слова людзям, асвячаць іх, цэлебруючы сакраманты і служачы ім, будаваць касцёльную супольнасць*

***ўмацоўваць іх у веры, паказваць Божую міласэрнасць, вучыць адказнасці за парафію і касцёл. Не можам забыцца і пра тых, хто ўвогуле далёкі ад Бога”.***

Кс. Ян і кс. Сяргей таксама падкрэсліваюць, што ў мясцовых вернікаў дарога да Бога не заўсёды пачынаецца з маленства. Тут вельмі шмат людзей, якія далучыліся да Касцёла ў дарослым узросце і з’яўляюцца маладымі хрысціянамі, хоць маюць багата гадоў. Кс. Ян узгадвае, што аднойчы пасля св. Імшы да яго падышоў малады чалавек і папрасіў удзяліць яму некалькі хвілін. Хлопец распавёў, што быў ахрышчаны ў царкве, але паколькі бацькі непрактыкуючыя хрысціяне, ніколі не наведваў храм. А зараз адчуў у сваім сэрцы патрэбу прыйсці ў святыню, каб пабыць у цішыні, падумаць. ***“Гэты юнак падзяліўся са мной сваімі перажываннямі, сказаў, што нярэдка задае сабе філасофскія пытанні: «Для чаго мы жывём?», «Куды пасля смерці адыходзіць душа?». І такіх выпадкаў нямала,*** – падкрэслівае святар. – ***Людзі дзесьці ўнутры чуюць голас Бога, пераступаюць праз унутраны бар’ер і ідуць у храм, каб знайсці адказы на хвалюючыя пытанні. Наш касцёл адкрыты для ўсіх без выключэння. І я лічу, што гэта вельмі важна”.***

Адным з галоўных прыярытэтаў дзейнасці ксяндзоў палатынаў у чалябінскай парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ з’яўляецца евангелізацыя і катэхізацыя маладога пакалення. Айцы запрашаюць на сустрэчы дзяцей, моладзь. Іх даводзіцца вучыць самым простым рэчам: знаку Крыжа, малітвам. Для кагосьці такая праца можа падацца нуднай, але місіянеры ўпэўнены: ад правільна закладзенага фундамента залежыць увесь далейшы хрысціянскі шлях. Таму важна запаліць у гэтых маладых іскру любові да Хрыста, да Касцёла, каб з цягам часу яна не згасла, а разгаралася ярчэй і ярчэй.

Варта адзначыць, што ксяндзы палатыны адказныя не толькі за касцёл у Чалябінску. Пад іх душпастырскай апекай знаходзіцца ўся вобласць: ***“Чалябінцы называюць свой горад «варотамі ў Сібір», бо адна палова знаходзіцца на Урале, а другая – ужо ў Сібіры. Таму мы і ў прамым, і ў пераносным сэнсе «рулім» на вялізнай тэрыторыі, пакольki наведваем яшчэ 5 парафій. Адна з іх – у Магнітагорску, на адлегласці 350 км. Нягледзячы на тое, што гэта вялікі горад, каталіцкая супольнасць там нешматлікая. На сустрэчы прыходзіць не больш за 15-20 чалавек. Пакольki ў аддаленыя парафіі прыязджаем толькі раз у месяц, вернікі нас заўсёды сустракаюць з вялікай удзячнасцю і радасцю. У Магнітагорску св. Імшу адпраўляем у Доме культуры, у іншых мясцовасцях збіраемся ў прыватных кватэрах. Вельмі важна ахінаць сваёй апекай гэтых людзей, хоць не заўсёды лёгка даецца доўгая дарога. Усе яны чакаюць споведзі, сустрэчы з Хрыстом, а таксама магчымасці паразмаўляць са святаром. Свае выезды ў парафіі заўсёды спалучаем з катэхезай, на якой збіраюцца і дзеці, і моладзь. Часцяком з імі разам прыходзяць бацькі. Падчас сустрэч мы спяваем, молімся, гаворым пра Бога, разважаем над пытанямі веры. Нас вельмі цешыць, што на гэтай зямлі ёсць людзі, якія хочуць паглыбляць сваё знаёмства з Богам, прагнуць быць аддавымі хрысціянамі”.***

Ксяндзы палатыны звяртаюць увагу, што ні ў якім разе не робяць з сябе герояў, бо вельмі хутка можна ўвайсці ў спакусу, пачаць пераацэньваць сваю дзейнасць, пры гэтым адкінуўшы Бога на задні план. ***“Мы толькі прылада ў руках Хрыста, які чыніць цуды і змяняе людзей. Наша місія – ад Бога. Няма нейкага канкрэтна акрэсленага тэрміна, колькі мы павінны прабыць на расійскай зямлі. Будзем тут служыць, пакуль маем фізічныя і духоўныя сілы, столькі часу, колькі адвядзе Усявышні. Цешымся, што адкрылі ў сабе пакліканне да місійнай дзейнасці, а ўсіх людзей добрай волі заахвочваем памятаць пра нас у сваіх малітвах, асабліва просім малітоўнай падтрымкі ў вернікаў, якія жывуць у нашай роднай Гродзенскай дыяцэзіі”,*** – падсумоўваюць місіянеры.

*Кінга Красіцкая*




### Святы Айцец прынёс надзею

**У Кракаве (Польшча) адбылася міжнародная канферэнцыя “Папа з-за жалезнай заслоны”. Дакладчыкі прадставілі ўплыў пантыфікату св. Яна Паўла II на краіны і Касцёлы савецкага блока.**

*Аўтарытэт Папы славяніна акрэсліўся ўжо пасля першай яго пілігрымкі ў Польшчу ў 1979 годзе. Плён падарожжа стаў відавочны, калі ў краіне выбухнулі першыя забастоўкі, а на браме верфі з’явіліся выявы Маці Божай і тагачаснага Пантыфіка. За рухам “Салідарнасць” назіраў увесь свет. Такім чынам, св. Ян Павел II дакрануўся да гадзінніка гісторыі.*

*Гэта было першае навуковае мерапрыемства, дзе прадставілі вынікі ранніх даследаванняў у дадзенай галіне. Удзел у ім прынялі спецыялісты з Польшчы, Балгарыі, Чэхіі, Германіі, Расіі, Румыніі, ЗША, Венгрыі і Італіі.*




### Амазонкі з клопатам пра хворых на рак

**XXI Пілігрымка Амазонак прыбыла на Ясную Гару (Польшча) з падзякай за дар жыцця і зваротам да жанчын, каб клапаціліся аб уласным здароўі.**

*Таварыствы Амазонак, якія дзейнічаюць амаль па ўсім свеце, – гэта немедыцынскія арганізацыі самадапамогі, якія служаць практычнай псіхалагічнай падтрымкай жанчынам, закранутым праблемай раку грудзі.*

*У сёлетняй сустрэчы на Яснай Гары прынялі ўдзел каля 7-мі тыс. жанчын з гэтым анкалагічным захворваннем з Польшчы, Германіі, Славакіі і Чэхіі. Увага прысутных звярталася на тое, што здаровая маці і жонка – гэта здаровая сям’я. Важным момантам сустрэчы стаў заклік да прафілактыкі, пакольki кастрычнік на працягу ўжо многіх гадоў аб’яўлены ў свеце месяцам барацьбы з ракам.*




### Каталіцкія госпіталі ахвярам вайны

**Ужо больш за 10 тыс. чалавек скарысталіся бясплатным медыцынскім абслугоўваннем для ахвяр вайны ў 3-ох каталіцкіх госпіталях у Дамаску і Алепа (Сірыя).**

*Акцыя праходзіць пад назвай “Адкрытыя бальніцы”. У ёй задзейнічаны шматлікія ўстановы, перш за ўсё, італьянскія, у тым ліку Ватыканская педыятрычная бальніца Дзіцятка Езус.*

*95% пацыентаў – мусульмане. “Мы прымаем усіх без выключэння. Не пытаемся, ці тэрарыст, ці мяцежнік, ці салдат дзяржаўных узброеных сіл. Для нас галоўнае, што ўсе з’яўляюцца Божымі стварэннямі”, – гаворыць с. Каралін Тахан FMA з госпіталя ў Дамаску.*




### Ці можа святар пакінуць вернікаў самастойна адараваць Найсвяцейшы Сакрамант?

*“Калі няма сур’ёзнай перашкоды, то касцёл, у якім захоўваецца Найсвяцейшы Сакрамант, павінен быць адчынены штодзённа, прынамсі на працягу некалькіх гадзін, каб парафіяне маглі маліцца перад Гостыяй” (кан. 937 Кодэкса кананічнага права). Інакш кажучы, калі людзі маюць патрэбу памаліцца перад Найсвяцейшым Сакрамантам, у касцёле павінны быць створаны для гэтага адпаведныя ўмовы. Неабходна выбраць належнае месца, гарантаваўшы бяспеку Гостыі.*

*Далей ККП сцвярджае: “Рэкамендуецца, каб у гэтых касцёлах і араторыях здзяйснялася ўрачыстае выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту на адпаведны тэрмін, няхай нават з перапынкамі, каб мясцовыя вернікі глыбей разважалі аб эўхарыстычнай таямніцы і з большым натхненнем адаравалі яе. Аднак такога роду выстаўленні павінны адбывацца толькі ў тым выпадку, калі прадбачыцца сход дастатковай колькасці вернікаў: акрамя таго, пры гэтым неабходна захоўваць устаноўленыя нормы” (кан. 942).*

*Фактычна, святар можа пакінуць вернікаў самастойна маліцца перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакрамантам, але калі ён разумее, што ў адарацыі будзе прымаць удзел невялікая колькасць людзей, і, як следства, выстаўленае Цела Езуса Хрыста можа застацца без удзельнікаў чування, ксёндз увогуле не павінен распачынаць адарацыю або скончыць яе адразу пасля адыходу вернікаў са святыні. Гостыя не павінна заставацца выстаўленай у пустым касцёле.*

*Кс. Алег Пятрашка*
***Паводле grodnensis.by***

# СВЯТАСЦЬ, СХАВАНАЯ Ў ДРОБЯЗЯХ



**1 лістапада – дзень нябачнага абмену позіркамі з усімі святымі, дзень удзячнасці і малітвы аб іх заступніцтве ў самых розных справах. Як цудоўна сказаў папа Бенедыкт XVI: “Спадарожнічаюць нам прыяцелі Бога, яны атачаюць нас і вядуць […]. Я не павінен насіць тое, што на самой справе ніколі не змог бы насіць сам. Грамада Божых святых абараняе мяне, падтрымлівае і вядзе”.**

Сапраўды, іх шлях ужо пройдзены, а мы яшчэ ў дарозе. Толькі куды ідзём? Ці даўно спраўджвалі свой накірунак? У гэтых пытаннях няма суровасці, толькі запрашэнне прыглядзецца ўважліва да рэчаіснасці вакол нас.

Пачнём з канца: з нашай мэты. Проста і ясна акрэслівае яе папа Францішак у адгартацыі “Gaudete et exsultate” (“Радуйцеся і весяліцеся”). Ён піша: “Я асабліва хацеў бы нагадаць пра пакліканне да святасці, з якім Пан звяртаецца да кожнага з нас, пра той заклік, з якім Ён звяртаецца таксама да Цябе: «Будзьце святымі, таму што Я святы» (Лев 11, 44; 1 П 1, 16)”.

З усяго багацця думак, разваг, добрых рад у адгартацыі Святога Айца сёння хочацца спыніцца даўжэй над яшчэ адным сказам: “Святасць, да якой заклікае Цябе Пан, будзе ўзрастаць праз маленькія жэсты” (GE 16). Першапачаткова ўзнікае цікавы парадокс у перспектыве менавіта шляху да святасці. Ці не варта адмовіцца ад руцінных спраў на карысць вялікіх? Зноў жа, часта можна пачуць, што мітусня і занятасць адцягваюць нас ад узрастання ў веры. Але папа Францішак гаворыць пра непрыкметныя “маленькія жэсты” ў іншым, вызвальняльным ракурсе. Ён раіць рабіць “звычайныя рэчы незвычайным чынам”, а гэта патрабуе папярэдняга рашэння, і больш таго: гэта штодзённы выбар.

У большасці з нас жыццё складаецца з будняў, якія так і хочацца назваць шэрымі. Можа выдавацца, што ўмовы існавання зададзены, кола падзей нязменнае, і высілак патрабуецца толькі на тое, каб вырвацца або кампенсаваць сабе маркоту і млявасць паўсядзённасці. Але рэчаіснасць – гэта і ёсць зыходная кропка на шляху да святасці. Ніводзін святы не ведаў, куды прывядзе яго давер да Бога, але выходзіў у гэты шлях адтуль, дзе знаходзіўся ў момант паклікання. А рэальныя абставіны часам сапраўды амаль не пакідаюць месца для ўзрастання ў святасці. Рытм сучаснага жыцця, цяжар шматлікіх абавязкаў, унутраны ці знешні псіхалагічны ціск, складаныя эканамічныя ўмовы – усё гэта выцягвае, здаецца, апошнія сілы з чалавека. Аднак не трэба падаць духам, успомнім пра “маленькія жэсты”... Дзе б мы не былі, заўсёды ёсць неабходнасць выконваць даручаную працу, клапаціцца пра іншых (і пра сябе!), стрымліваць абяцанні, весці размовы, а значыць, ёсць магчымасць зрабіць гэта незвычайна – для Бога, з любові да Яго. Вядома, не адразу, але пакрысе. І размовы, і ўчынкі пачнуць змяняцца, набудуць прыкметы “не з гэтага свету”, подых Нябеснай Айчыны.

Як не ўзгадаць бедную ўдаву, якая аддала Богу ўсё, што мела? Ці не адчувала яна сябе няёмка за свае маленькія дзве лепты? Магчыма, пабойвалася зняважлівых позіркаў, а сустрэлася з абыякавасцю, бо ўвага прысутных была скіравана на тых, хто дае шмат, напаказ. Але менавіта яе сярод іншых заўважыў Езус і паказаў вучням, бо ўчынак удавы прыйшоўся Яму па сэрцы. Тым самым Хрыстос запэўнівае, што бачыць усе нашы нязначныя “лепты”, усе нашы намаганні ўкласці ў звычайныя рэчы ўсё сваё сэрца, не раздумваючы, ці хопіць яго на заўтра, укласці ўсю любоў, хоць бы яе засталося дзве кроплі з колішняга вялікага мора гарачых пачуццяў ці евангелічнага запалу. З малых крокаў складаецца шлях.

“Не бойся імкнуцца вышэй, дазваляць любіць сябе і вызваліцца праз Бога. Не бойся дазволіць Святому Духу кіраваць сабою, – заклікае папа Францішак. – Святасць не зробіць Цябе менш чалавечным, таму што гэта сустрэча Тваёй слабасці з сілай ласкі. Па сутнасці, як сказаў Леан Блуа, «у жыцці ёсць толькі адзін смутак – не быць святым»” (GE 34).

*Тэрэса Клімовіч*

# КАК НЕ ОПОЗДАТЬ С РЕЛИГИОЗНЫМ ВОСПИТАНИЕМ

**Если с ранних лет родители не поделятся с ребенком истинами о Боге, то в будущем религиозные практики не будут иметь никакого значения. Дети не полюбят Бога, о котором ничего не знают.**

## КОГДА И КАК РАЗВИВАТЬ РЕЛИГИОЗНОСТЬ РЕБЕНКА?

Обычно считается, что младенчество – это время без религиозности. Тем временем, после полугода дети способны выучить самые простые религиозные жесты. Например, когда родитель спрашивает, как нужно молиться, ребенок складывает ручки вместе. Начиная с года жизни он наблюдает и подражает поведению родителей.

Стоит заметить, что первые религиозные представления остаются на всю жизнь. Это так называемый закон стойкости первого впечатления.

## В КАКОМ ВОЗРАСТЕ НАЧИНАТЬ УЧИТЬ РЕБЕНКА МОЛИТЬСЯ?

Разговор с Богом нужно начинать в то время, когда ребенок произносит первые слова. В постмладенческий период (от 1-го года жизни до 3-х лет) дети способны повторять некоторые молитвы. Это и есть религиозность «вслед за матерью». Позже помощью в молитве могут послужить такие вопросы, как, например: «За что ты хочешь поблагодарить Иисуса?», «О чем попросишь Бога?».

Молиться нужно просто и кратко, так как ребенок не может сосредотачиваться длительное время. Нельзя также заставлять ребенка молиться, поскольку он может потерять интерес.

Обучение молитвам Католической Церкви можно отложить до того времени, когда ребенок начнет ходить на уроки религии, поскольку следует объяснить их содержание.

## СТОИТ ЛИ БРАТЬ РЕБЕНКА С СОБОЙ НА МЕССУ?

Даже самых маленьких детей можно брать на св. Мессу. Однако часто участие ребенка в богослужении нарушается его «неправильным» поведением. В таких ситуациях родители не должны нервничать, нужно сохранять уравновешенность и серьезность. Ребенок должен видеть, что мешает в важном событии. В определенный момент он станет подражать спокойствию взрослых. Нежелательным является повторение выражений вроде «успокойся», «перестань дурачиться», так как в следующий раз ребенок неохотно пойдет в храм.




## КАКУЮ РОЛЬ ИГРАЕТ СОВМЕСТНОЕ ПРАЗДНОВАНИЕ ЛИТУРГИЧЕСКИХ ПРАЗДНИКОВ?

В воспитании ребенка нужно особое внимание обращать на литургический год, переживаемый в семье (не только Адвент, Рождество, Великий пост, Пасху, но также первые пятницы и субботы месяца, богослужения в мае, июне, октябре и т. д.). Совместное празднование духовно сближает родителей и детей, а также направляет их к Богу.

## КАК ОТВЕЧАТЬ НА ВОПРОСЫ РЕБЕНКА О БОГЕ?

Родители часто боятся разговаривать с детьми о Боге, поскольку детские вопросы могли бы озадачить даже многих священников. Воображение ребенка неограниченное, а взрослые люди не всегда могут посмотреть на мир с перспективы ребенка. О Боге детям следует говорить очень простым и сердечным языком. То, о чем говорится, должно быть сформулировано так, чтобы позже не нужно было ничего опровергать и изменять, а только углублять. Если ребенок спрашивает: «Кто такой Бог?» – то можно ответить, например, так: «Бог – это Творец мира». Истина о всемогуществе более понятна, нежели истина о пребывании Бога в сердце человека.

## ГДЕ ИСКАТЬ ОТВЕТЫ НА ВОЛНУЮЩИЕ ВОПРОСЫ?

«Библия для детей» с картинками и краткими текстами может помочь ребенку познать и полюбить Иисуса Христа. Священное Писание показывает Бога, который любит человека, а любовь для ребенка имеет первостепенное значение. Она выражается в заботе родителей, которые могут сказать: «Ты видишь, что мама и папа очень сильно тебя любят. Любовь Бога гораздо больше любви родителей».

## НАСКОЛЬКО ВАЖЕН СОБСТВЕННЫЙ ПРИМЕР?

Родители должны помнить, что их дети будут принимать не столько те ценности, которые они исповедуют (о которых говорят), сколько те, которыми живут в повседневности. Поэтому так важно вместе с отцом и матерью участвовать в воскресной св. Мессе, ежедневно молиться, совершать хорошие поступки и т. д. Дети должны чувствовать, что мать и отец верят и доверяют Богу, который является самой большой ценностью в их жизни.

*О. Казимир Енджейчак OMI*

## НАВІНЫ



### 300-ГОДДЗЕ ПРЫБЫЦЦЯ АЙЦОЎ ПІЯРАЎ У ШЧУЧЫН

Вялікі юбілей адсвяткавалі члены Ордэна Духоўных Рэгулярных Убогіх Маці Божай Пабожных Школ (айцы піяры) у Беларусі. З гэтай нагоды ў касцёле св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне адбылася ўрачыстая св. Імша падзякі, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч з удзелам біскупа Віцебскага Алега Буткевіча і дапаможнага біскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрыя Касабуцкага. На ўрачыстасці таксама прысутнічалі правінцыял польскай правінцыі ордэна піяраў а. Юзаф Матрас, святары, манаскія сёстры, прадстаўнікі мясцовай улады і шматлікія вернікі.

У рамках святкавання адбылася канферэнцыя, на якой выступілі навукоўцы, што цікавяцца ордэнам піяраў. На заканчэнне прысутных парадаваў музычнымі нумарамі парафіяльны хор “Calasanz”.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТАЦЫІ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч і дапаможны біскуп Юзаф Станеўскі здзейснілі кананічную візітацыю ў парафіях дэканата Слонім.

У рамках мінулай кананічнай візітацыі ў дэканаце Масты кс. бп Аляксандр асвяціў аднаўленую капліцу на могілках у парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе.

### МАНАСКІЯ СУПОЛЬНАСЦІ



С. Назарыя Міклаш з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта склала вечныя манаскія абяцанні. Урачыстасць адбылася ў яе роднай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне. Св. Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі.

У кляштары сясцёр кармэлітак ад Дзіцятка Езус у Гудагаі адбыліся Дні малітвы для дзяўчат. Сустрэча была прысвечана тэме “Давер Богу ў жыцці св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус і мой давер Богу”.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Навучэнцы гродзенскай семінарыі наведалі папулярную выставу “Беларусь і Біблія”, што праходзіць у Нацыянальнай бібліятэцы ў Мінску.

Некалькімі днямі пазней у семінарыі прайшоў дзень засяроджання, духоўным айцом якога выступіў кс. Юрый Кузьміч, пробашч парафіі Унебаўзяцця НПМ у Новым Двары (дэканат Шчучын).



### АДНЫМ РАДКОМ

• Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч даслаў Ганароваму Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі Мітрапаліту Філарэту віншаванні з нагоды 40-годдзя прызначэння першаіерархам Праваслаўнай Царквы ў Беларусі. • Група вернікаў з сапоцкінскай парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча прыняла ўдзел у Архідыяцэзіяльным дні Эўхарыстыі ў Сакулы (Польшча). • Дзякуючы падтрымцы Гродзенскага “Карытас” пры парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы адкрыта святліца для дзяцей. • Члены душпастырства чыгуначнікаў у Гродне прынялі ўдзел ва ўпарадкаванні старых каталіцкіх могілак горада. • Міністранты з Іўя падчас суботніка прывялі ў парадак прыкасцёльную тэрыторыю. • Дзень маці адсвяткавалі ў парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе. • Папскі дзень адзначылі ў парафіі Божай Міласэрнасці ў Лідзе. • Чарговы сход калегіі кансультантаў і святарскай рады адбыўся ў будынку дыяцэзіяльнай курыі ў Гродне. • Фігура св. Герарда Маелі асвечана і ўсталявана ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by.***

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**22 кастрычніка 1961 г.** – кс. Ян Жыткевіч, *проб. Квасоўка;*
**24 кастрычніка 1967 г.** – кс. Іпаліт Ядкоўскі, *проб. Воўпа;*
**25 кастрычніка 1993 г.** – кс. Ян Адамовіч, *проб. Краснае, Мінск – Цудзенішкі;*
**30 кастрычніка 1936 г.** – кс. Юльян Юркевіч, *проб. Радунь;*
**1 лістапада 1972 г.** – кс. Мар'ян Чабаноўскі SChP, *проб. Ліда;*
**2 лістапада 1952 г.** – кс. Людвік Віткоўскі SDB, *проб. Дварэц.*

## АНОНСЫ

### ГРОДЗЕНСКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ РЫХТУЕ АЛЬБОМ ПРА ГІСТОРЫЮ ПРЫДАРОЖНЫХ КРЫЖОЎ

**З незапамятных часоў на нашых землях існуе прыгожы звычай ставіць прыдарожныя крыжы. Гэта яскравае сведчанне веры папярэдніх пакаленняў, іх прывязанасці да традыцыі і хрысціянскіх каштоўнасцей.**

Нярэдка ў калектыўнай памяці мясцовых жыхароў клапатліва захоўваюцца і перадаюцца з пакалення ў пакаленне цікавыя і ўзрушальныя гісторыі, звязаныя з асобнымі крыжамі. Кіруючыся жаданнем уратаваць ад забыцця і папаўсюдзіць у грамадстве веды пра такую важную частку нашай рэлігійнай і культурнай спадчыны, дыяцэзіяльная курыя ў Гродне распачала працу над падрыхтоўкай альбома, прысвечанага гэтай тэме. Зараз трывае збор матэрыялаў, неабходных для рэалізацыі праекта.

*У сувязі з гэтым вернікі Гродзенскай дыяцэзіі запрашаюцца да збору і перадачы ўсякай інфармацыі, якая датычыць крыжоў, што знаходзяцца на тэрыторыі іх парафій. Гэта могуць быць, напрыклад, архіўныя дакументы, успаміны і сведчанні парафіян, сучасныя ці гістарычныя здымкі. Матэрыялы неабходна асабіста дастаўляць у дыяцэзіяльную курыю ў Гродне (можна перадаваць праз сваіх душпастыраў) або дасылаць на электронны адрас grodnensis@gmail.com, пазначыўшы тэму ліста: “Прыдарожныя крыжы”.*

### ВОСЕНЬСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў РОСІ

**Трохдзённыя духоўныя практыкаванні будуць праходзіць у рэкалекцыйным цэнтры “Дом міласэрнасці”.**

**План рэкалекцый**

**ЛІСТАПАД**

**9–11 лістапада:** “Унутранае ацаленне”, *кс. Віктар Ханько*;
**16–18 лістапада:** рэкалекцыі для сужэнскіх пар з малітвай аб дары патомства, *кс. Чэслаў Паўлюкевіч*;
**23–25 лістапада:** рэкалекцыі аб “Сведчанні” і “Павучанні” з дзённіка Аліцыі Лянчэўскай, *кс. Чэслаў Паўлюкевіч*.

Пачатак рэкалекцый у 18.00. Заканчэнне – у 15.00.

*Для ўдзелу ў духоўных практыкаваннях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА ЧЛЕНАЎ ЖЫВОГА РУЖАНЦА АДБУДЗЕЦЦА Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Спатканне пройдзе ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі 27 кастрычніка.**

**Праграма:**

11.00 – прывітанне;
– выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту (магчымасць прыступіць да споведзі);
– Ружанец;
– перапынак;
12.15 – канферэнцыя;
13.00 – Крыжовы шлях;
14.00 – св. Імша;
15.00 – абед, заканчэнне сустрэчы.

Запрашаюцца святары, кансэкраваныя асобы і ўдзельнікі ружанцовага малітоўнага руху.

*Аб удзеле ў спатканні неабходна загадзя паведаміць кс. Міхалу Ластоўскаму, дыяцэзіяльнаму мадэратару колаў Жывога Ружанца Гродзенскай дыяцэзіі і кусташу санктуарыя ў Капцёўцы, па тэлефоне: (8 029) 116-87-26 або (8 033) 655-44-22.*

### “БЕЛАРУСЬ 3” ПРЭЗЕНТУЕ НОВУЮ ПРАГРАМУ “АРХІТЭКТУРА БЕЛАРУСІ”

**4 лістапада ў эфіры тэлеканала “Беларусь 3” стартуе праект, які дасць магчымасць тэлегледачам зазірнуць у мінулае і даведацца пра таямніцы ўнікальных помнікаў.**

З дапамогай графікі і аэраздымкі стваральнікі праграмы раскрываюць шматстайнасць беларускай архітэктуры. Усяго падрыхтавана 26 фільмаў. Увагай ахоплены Спаса-Праабражэнская царква, гродзенскія Стары замак і Новы замак, кляштар езуітаў (фарны касцёл) і інш.

*Праграму “Архітэктура Беларусі” можна ўбачыць на тэлеканале “Беларусь 3” па нядзелях у 20.00.*

## Каляндар падзей

***21 кастрычніка***
*Сусветны дзень місій. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі ўсіх місіянераў.*

***28 кастрычніка***
*Свята свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша.*
*Дзень імянін аб-па Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага. Дастасоўваем Богу ў малітве шаноўнага імянінніка.*

***1 лістапада***
*Урачыстасць Усіх Святых.*

***2 лістапада***
*Успамін усіх памерлых вернікаў.*

***За наведванне могілак 1–8 лістапада можна атрымаць поўны адпуст.***

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***“Голас Евангелля”***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Кастрычнік***
*Каб з тэрыторыі нашай дыяцэзіі Пан Бог паклікаў місіянераў і місіянерак, здольных адважна пайсці за Хрыстом і служыць Яму ў місійных краінах.*

***Лістапад***
*Каб пакліканыя святары і кансэкраваныя асобы вытрывалі пры Хрысце і былі шчаслівыя ў рэалізацыі свайго паклікання.*

## Дзіцячы куточак

# З місіянерамі абвяшчаем Хрыста

*Прывітанне, Маленькі Чытач! Сёння я хачу распавесці Табе аб тым, кім з'яўляецца місіянер і чым ён займаецца.*

*Напэўна, Ты ўжо чуў ад старэйшых пра місіянераў альбо, можа, нават сустракаў такіх людзей. Місіянер – гэта, перадусім, чалавек добрай волі, які ахвяруе самога сябе для іншага чалавека, для Касцёла. Місіянеры падарожнічаюць па розных краінах і абвяшчаюць Евангелле тым людзям, якія ніколі нічога не чулі пра Бога. Яны таксама будуюць бальніцы і паселішчы для бедных, апекуюцца дзіцячымі садкамі і школамі, клапоцяцца пра хворых і старэйшых людзей.*

*Вядома, быць місіянерам нялёгка: чужая краіна, незнаёмая мова і звычаі, нязвыклы клімат і да т. п. Але ўсе гэтыя перадумовы нішто ў параўнанні з мэтай, дзеля якой усё робіцца.*

*Служэнне місіянераў з'яўляецца выкананнем задання, якое даў Пан Езус: "Ідзіце і навучайце ўсе народы і хрысціце іх у імя Айца і Сына, і Святога Духа. Вучыце іх захоўваць усё, што Я загадаў вам" (Мц 28, 19–20). Найперш за гэтае заданне ўзяліся 12 апосталаў. Збаўца, ведаючы, што памрэ на крыжы, наказаў ім, каб пасля Яго смерці, уваскрашэння і ўнебаўшэсця яны надалей працягвалі распавядаць пра Айца, Сына Езуса Хрыста, Святога Духа і пра збаўленне. Апосталы сталі першымі місіянерамі, якія вырушылі ў розныя часткі свету, каб евангелізаваць людзей – абвяшчаць Добрую Вестку пра любоў Найвышэйшага да кожнага чалавека, пра ахвяру Божага Сына, пра прабачэнне грахоў, пра вечнае жыццё, а таксама каб дапамагаць усім тым, хто мае ў гэтым патрэбу.*

*Пасля апосталаў многія святары, манахі і манахіні, а таксама свецкія людзі адправіліся ў аддаленыя месцы ў свеце, каб "ісці і абвяшчаць", як загадаў Езус. Гэтая місія працягваецца па сённяшні дзень. Шмат людзей выязджаюць за межы сваёй Радзімы і адпраўляюцца на розныя кантыненты. Але і Ты таксама можаш быць місіянерам! Для гэтага неабавязкова пакідаць месца свайго прабывання.*

*Прапаную Тваёй увазе апавяданне, у якім расказваецца пра адну шчаслівую дзяўчынку, якая была місіянеркай для іншых.*

***Алёнка вельмі любіла шпацыраваць па лесе. Аднойчы яна ўбачыла матылька, які заблытаўся ў ажынах. Дзяўчынка вельмі асцярожна, каб не пашкодзіць прыгожыя крылы, высвабадзіла яго з калючых галін і адпусціла. Матыль адляцеў на адлегласць, але раптам вярнуўся і ператварыўся ў прыгожую фею. Алёнка адкрыла рот ад здзіўлення.***

***– Я хачу аддзячыць за дабрыню, – сказала фея, – таму выканаю тваю самую вялікую мару.***

***Дзяўчынка на імгненне задумалася, а затым адказала:***

***– Я хачу быць шчаслівай!***

***Фея схілілася над ёй, сказала нешта на вуха і знікла. Ішоў час, і ніхто ў вёсцы не быў больш шчаслівым, чым Алёнка. Калі ў яе пыталіся аб сакрэце радасці, тая толькі ўсміхалася ў адказ.***

***Прайшлі гады, і Алёнка пастарэла. Але заставалася дабрадушнай і самай шчаслівай у вёсцы. Суседзі, а таксама яе ўнукі баяліся, што ўнікальны сакрэт шчасця памрэ разам з ёй.***

***– Раскажы нам, што табе некалі сказала фея? – прасілі яе.***

***І, нарэшце, у адзін цудоўны дзень бабулька, усміхаючыся, сказала:***

***– Фея сказала, што ўсе, нават калі не свядомыя гэтага, маюць патрэбу ўва мне.***

*Алёнка была шчаслівая, бо адчувала сябе патрэбнай. Гэтым прынцыпам кіруюцца і місіянеры, бо ахвярна дапамагаюць іншым. Але і Ты патрэбны місіям! Якім чынам? Вельмі важнае значэнне мае Твая малітва за місіянераў, маленькія ахвяры цярпення ў іх інтэнцыі, а таксама матэрыяльная дапамога: грошы, адзенне, прадукты харчавання, якія можна скласці ў парафіі на карысць місій. І ніколі не забывайся пра тое, што і сам можаш быць місіянерам там, дзе жывеш, вучышся, адпачываеш.*

*Заданне:* ***напішы сваю малітву за місійныя краіны і ўсіх місіянераў; маліся ёю кожны вечар да канца месяца кастрычніка.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Паважаны Ксёндз Пробашч Павел Звяжынскі!**
З нагоды 19-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў шчыра дзякуем Вам за тое, што нясеце нам радасць Евангелля, каб маглі трываць у Хрысце і жыць у еднасці з Ім. Мы ўдзячны Богу, Вашай сям'і і ўсім, хто стаяў ля вытокаў Вашага выбару жыццёвага шляху, за тое, што маем такога святара. Цешымся, што Вы ў нас ёсць. Няхай міласэрны Бог адорыць моцным здароўем, бясконцым натхненнем, святло Хрыста няхай асвячае святарскі шлях, а Маці Божая вядзе найлепшай дарогай да святасці і прытуляе да свайго мацярынскага сэрца.

*З малітвай і павагай, апостальскі рух "Маргарытка", Жывы Вяночак Міласэрнасці і вернікі з касцёла св. Юрыя ў Варнянах і капліцы ў Вароне*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, поспехаў у душпастырскай працы, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай Езус Хрыстус адорвае Вас усімі ласкамі, Анёл-ахоўнік дадае сіл, Маці Божая ахінае сваёй мацярынскай пяшчотай, а Святы Дух вядзе праз усё жыццё.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Лядска*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**
з нагоды 14-годдзя паслугі ў нашай парафіі перасылаем сардэчныя пажаданні: радасці, моцнага здароўя, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу веры, сіл і нястомнасці ў святарскай паслузе. Няхай усе непрыемнасці, якія сустракаюцца на Вашым шляху, ніколі не знеахвочваюць, а толькі ўзмацняюць і вядуць да святасці.

*Вернікі з вёскі Малінавая*

**Паважанаму Айцу Дзмітрыю Лабкову**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе шчаслівым і блаславёным, а праца на ніве Пана прыносіць багаты плён.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Гродна-Дзевятоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Дулю**
з нагоды 19-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці і нястомнага запалу ў выкананні святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці разам са сваім Сынам заўсёды маюць Вас у сваёй апецы і спадарожнічаюць на працягу ўсяго жыцця, каб заўсёды з вялікай радасцю служылі Богу і людзям.

*Ружанцовыя колы і парафіяне з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**
з нагоды Імянін жадаем, каб усё жыццё было напоўнена святлом і любоўю. Няхай Збаўца вядзе Вас цудоўным святарскім шляхам, а побач будуць толькі зычлівыя людзі. Жадаем моцнага здароўя і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Мы вельмі ўдзячны Вам за нашу капліцу і за тое, што былі з намі.

*З памяццю ў малітве, удзячныя вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**
з нагоды Імянін жадаем Божага блаславення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, усіх неабходных ласкаў ад Хрыста, моцнага здароўя, супакою ў сэрцы, душэўнай раўнавагі, а таксама людской дабрыні і нязгаснага душэўнага цяпла ў святарскім служэнні.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з касцёла ў Дудах*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Дзмітрыю Лабкову**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, радасці на кожны дзень, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці. Дзякуем за ахвярную працу, мудрыя словы і бацькоўскі клопат пра сваіх парафіян.

*Колы Жывога Ружанца, апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі Найсвяцейшага адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Дзмітрыю Лабкову**
з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай. Няхай людзі, якіх Вы сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць радасцю і добразычлівасцю. Дзякуем за паслугу ў нашай парафіі і супольнасці, за добрае сэрца і цудоўны прыклад веры.

*Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Дзмітрый Несцер!**
З нагоды Імянін жадаем Вам моцнага здароўя, запалу ў святарскай паслузе, Божага блаславення і зычлівых людзей побач. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас сваёй мацярынскай апекай і ласкай, а Святы Дух спасылае свае дары і асвячае шлях у Нябеснае Валадарства.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла, Алена Гальчэня; тэл. **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5287; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная